Янка Купала

# *Зніч любові*

Беларускі пераклад
***Уладзіміра Мархеля***

Мінск
«Тэхналогія»
2002

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Бел)-5
К 92

Купала Янка
К 92 Зніч любові / Янка Купала; Пер. на бел. мову У.Мархеля. — Мн.: Тэхналогія, 2002. — 69 с.
ISBN 985-458-068-7.

«Зніч любові» — першае выданне асобнай кнігаю польскамоўных вершаў Янкі Купалы, дзе тэксты падаюцца паралельна ў арыгінале і па-беларуску.

Для аматараў паэзіі.

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Бел)-5

ISBN 985-458-068-7

## LEĆ, PIOSENKO...

Leć, piosenko skrzydłata,
Leć, gdzie tobie się zdarzy,
I w pałace magnata
I do chatek nędzarzy.

Leć i zabrzmij nadzieją
W przyszłe bytu świtanie,
Gdy się mroki rozwieją,
Życie lepsze nastanie.

Czarnych swarów dalecy
Ludzie prawdzie nie zdradzą,
Możni, biedni, kalecy
Ręce sobie podadzą.

Nienawiścią szakalą
Spotwarzać się nie będą,
Znicz miłości rozpalą,
Stół zbratania obsiędą.

Skarbiec szczęścia i chwały
Dla łez będzie otwarty,
Znajdzie chleba zgłodniały,
Odzież znajdzie obdarty.

Chatkę znajdzie bezdomny,
Pomoc znajdzie sierota,
Hej dla rzeszy potomnej
Era zjawi się złota.

Więc, więc z taką otuchą
Leć, piosenka, z pod strzechy,
Nie jęcz smutnie i głucho,
Tętnij gromem pociechy.

## ЛЯЦІ, ПЕСНЯ...

Ляці, песня, крылата,
Ляці ў свет ад парога
Да палаца магната,
Да хаціны убогай.

Абвясці ўсім надзею
На прыходы світання,
Калі цемру развее,
Жыцце лепшае стане.

І, абыўшыся здзекаў,
Людзі праўдзе не здрадзяць,
Можны, бедны, калека
Між сабою паладзяць.

Не панізяцца болей
Ненавіснасцю зверскай,
Зніч распаляць любові,
За стол сядуць братэрскі.

Скарбец шчасця і хвалы
Пойдзе слёзам на спраты,
Знойдзе хлеб згаладнялы,
Голы знойдзе апратку.

Хату знойдзе бяздомны,
Сірата — падтрыманне,
Для людзей для патомных
Залаты век настане.

Дык з нямручаю мэтай
Ляці, песня, ад дому,
Не енч сумна над светам,
Грымі радасным громам.

## W NOC MAJOWĄ

Jakaż cudna majowa ta noc bez chmur ciemnych i mgły.
Księżyc patrzy wesoło na pole i bór;
W czarodziejskie zaświaty mknie myśl, dziwne roją się sny,
Hymnów szczęścia na duszy ozywa się chór.

Pierś uczuciem tajemnym faluje, kołtuje się krew,
Nocka szepce porzucić tęsknotę i żal,
Het, z krainy nieznanej, z uciechy sercowej śle zew,
Aż bym pomknął, jak wicher stepowy, w tą dal.

Hej dziewczyno, kochanko, strząśnijmy swych smutków złą pleśń,
Niechaj w sercu zatętni i rzewność i moc.
I zanućmy pieśń wielką, potężnej miłości swej pieśń,
Czarę uczuć kochania wychylmy w tą noc.

Zapomnijmy na wszystko, na życie, na ludzi, na świat;
Ha, cóż dali nam ludzie i świat ten i byt?
Jedne troski, cierpienia, co z nami jak cienie mkną w ślad.
Więc, więc dalej w ten raj, gdzie miłości lśni świt.

Śmiało, śmiało w ten raj swoim duchem się wznieś.
Swoją główkę czarowną na piersi mej złóż,
Weź me serce, dziewczyno, i pierscień weselny mój weź
Za swój wieniec spowity i z mirtów i z róż.

## У МАЁВУЮ НОЧ

О, якая цудоўная ноч, ані хмар, ні імглы,
Глядзіць месяц вясёла на поле і бор;
У надсветы імкнуць чараўнічыя думкі і сны,
Гімнаў шчасця ў душы азываецца хор.

Грудзі чуццем хвалюе таемным, бунтуецца кроў,
Ночка шэпча пакінуць сумоту і жаль
І шле позвы з уцехі сардэчнай, з нязнаных краёў,
Каб, як стэпавы віхар, памкнуўся я ўдаль.

Гэй, дзяўчына мая, скіньма плесню з сумненняў усіх,
Хай у сэрцы пяшчота нам будзе відна.
Заспявайма магутную песню пачуццяў сваіх
І кахання кяліх давай вып'ем да дна.

І забудзьма пра ўсё — пра жыццё, пра людзей і пра свет;
Што далі нам і людзі, і свет, і быццё?
Толькі клопат, пакуты, што ценем спяшаюцца ўслед.
Дык жа далей у рай, дзе святліць пачуццё.

Дык смялей узнясіся душою сваею ты ў рай.
Да мяне прыхініся — зрабі яшчэ крок,
Маё сэрца вазьмі, мой пярсцёнак вясельны трымай
За свой сплецены з міртаў і ружаў вянок.

## JESIEŃ

Ziemię szeroką
Jesień niemiła
Ciemną pomroką
Łzawo spowiła.

I podmuch zimny
Wichrów z północy
Wydzwania hymny
Z żalu, z niemocy.

Duch skołatany
Pojmie te chóry,
Te dzikie tany
Chwili ponurej.

Pojmie i zaśnie
Szczęścia daleki.
Lecz, lecz nie zgaśnie
Nigdy na wieki.

Pojmie i zaśnie
Do przyszłej wiosny,
Gdy słońce jaśnie
Oświeci sosny,

Gdy rzuci na nie
Blaski z ukrycia
I ziemia wstanie
Znowu do życia.

## ВОСЕНЬ

Зямлю шырокую
Слёзна, няміла
Цёмнай памрокай
Восень акрыла.

І подых зімны
Віхру з-за далі
Грае ўжо гімны
У немачы й жалі.

Дух змардаваны
Прыме хор гэты,
Дзікія таны
Хвіль непрыветных.

Прыме й, няшчасны,
Сном засне ў болі,
Ды ўсё ж не згасне
Марна ніколі.

Прыме й, няшчасны,
Сном засне моцным,
Аж пакуль ясна
Ўсвеціцца сонца

І на прадвесні
Бліснe з укрыцця,
І зямля ўскрэсне
Зноўку да жыцця.

## ZE WSPOMNIEŃ

Czy widzisz chmur zastęp, co miota śniegami,
Co sypiąc, jak pryskiem, oślepia wzrok?
Tą ciemność przed nami, tą ciemność za nami,
Czy widzisz, czy widzisz ten mrok?

Czy słyszysz te wycia wichury zimowej,
I wilków za borem żałobny wtór?
Te jęki w kominie, ten poswist grobowy...
Czy słyszysz, czy słyszysz ten chór?

W noc taką, lat temu pięćdziesiąt już będzie,
Nasz ojciec porzucał rodzinny dom,
Choć zamieć, choć wichry w szalonym swym pędzie
Grób niosły pociechom i snom.

Płakaliśmy dzieci i matka płakała,
Gdyż szczęściu naszemu nadchodził kres,
Lecz serce miał mężne, a twarde jak skała,
Nie słuchał narzekań i łez.

«Nie płaczcie, tak powie — żal w tym nie pomoże,
Cierpienia nam Bóg, jak i radość, śle.
Iść muszę, iść trzeba, więc w imię, a Boże...
Tam dawno czekają już mnie.

Tam dawno już ciecze czerwonym potokiem
Za prawdę, za naszą niewinna krew,
I echem potężnym po świecie szerokim
«Hej, naprzód, za wolność!» — rozlega się zew».

I wyszedł hen w pole, nas w żalu porzucił,
Cień jego śniegowy otoczył dym.
I wyszedł hen w pole i więcej nie wrócił,
Choć przeszło pięćdziesiąt już zim.

## З УСПАМІНАЎ

Ці бачыш хмур зграі, што сыплюць снягамі,
Як прыскам шпурляюцца, слепячы зрок?
Цямрэча прад намі, цямрэча за намі,
Ці бачыш, скажы, гэты змрок?

Ці чуеш завывы зімовай віхуры,
Ваўкоў за лясамі жалобны утор?
І ў коміне енкі і посвіст хаўтурны...
Ці чуеш, скажы, гэты хор?

Гадоў пяцьдзесят таму, ночай такою
З радзімае хаты наш бацька пайшоў,
Хоць замець, хоць віхры з напорнасцю злою
Смерць неслі для ўцехі і сноў.

Мы плакалі — дзеці, і плакала матка,
Бо нашае шчасце спыняў ужо лёс,
Ды сэрца было ў яго моцнае надта,
Не чуў нараканняў і слёз.

"Не плачце, — сказаў, — хіба жаль тут паможа,
Пакуты нам Бог, як і радасць, дае,
Мне трэба ісці і я мушу... ах, Божа,
Даўно там чакаюць мяне.

Даўно ўжо нявінная кроў там ліецца
За праўду за нашу чырвонай ракой,
І рэхам магутным па ўзбураным свеце
Разносіцца покліч: "За волю, у бой!"

І выйшаў у поле, пакінуў сіротаў,
І снежную постаць схаваў ад нас дым.
І выйшаў у поле, не бачылі потым,
Хаця пяцьдзесят прайшло зім.

## BIAŁORUSIN

Patrzę: ot się toczy jakiś cień zmarniały,
Licha siermięga z chudych bark opływa,
W strzępach kożucha tonie głowa siwa,
A krzywe nogi wleką z lip sandały.

Twarz cała w zmarszczkach, jak ta w bruzdach niwa,
Cieni zgnębieniem istoty zmartwiałej,
W oczu brak życia, znać go łzy zalały,
A z piersi oddech zgrzytem się odzywa.

To Białorusin, co cierpi i kocha.
To Białorusin, którego stoczyła
W bagnisko nędzy ciemnota-macocha.

Bogactwem jego — chatyna pochyła,
Celem do życia — siekiera i socha,
A kresem cierpień — karczma i mogiła.

## БЕЛАРУС

Бачу: ідзе вось змарнелы цень нейкі,
Бедная світка спіну ахінае,
І галава над лахманнем сівая,
Ногі крывыя у лапцях старэнькіх.

Твар у баразнах, нібы ніва тая,
Цені прыгнечання, лёсу тут здзекі,
Выцвілі вочы, апухлі павекі,
Хрыпла слабымі грудзямі ўздыхае.

Вось беларус, што гаруе без меры,
Вось беларус той, якога спусціла
Ў багну бядоты цемра-хімера.

Можнасць ягоная — домік пахілы,
Сэнс яго жы́цця — саха і сякера,
Гору скančэнне — карчма і магіла.

## NIE DLA WAS...

Nie dla was dola jutrzenką różową
Wsród miotań życia połyska na niebio,
Nie dla was wschodzi nadzieja nanowo,
Gdy ją zwątpienie rozbije, zagrzebie.

Z myślą o jutrze, o chacie, o chlebie
Musicie kroczyć ze spuszczoną głową.
Pracować w pocie za drugich, za siebie,
A potem umrzeć z łez, śmiercią głodową.

Pieśń wasza jęczy trenami żałoby,
Stawiąc przed oczy całą waszą nędzę,
Że już za życia zmienieniście w groby,

Że waszą ziemię zniszczenie zalało,
Że inni mogę żyć wiecznie w potędze, —
Dla was nie wolno nawet umrzeć z chwałą.

## НЕ ДЛЯ ВАС...

Не для вас доля заранкай ружовай
Ў мэтлаху быту заззяе на небе,
Не для вас ўзыдзе надзея нанова,
Бо толькі роспач тут сеецца ў глебе.

З мысляй аб заўтра, аб хаце, аб хлебе
Мусіце крочыць, спусціўшы галовы,
Ліць пот за іншых ва ўласнай патрэбе,
Потым ад голаду змерці гатовы.

Песня жальбяныя кратае струны,
Плача над вашаю ўсею бядотай,
Што пры жыцці яшчэ леглі вы ў труны,

Што зямлю вашу знішчае навала,
Што могуць іншыя жыць у ахвоту —
Вам жа памерці нат нельга з ухвалай.

## WIOSNA

Przyszła ona do mnie,
Cicha i zielona,
Wielka, pełna życia,
Słońcem ozłocona.

Przyszła i wygnała
Słoty i zawieje,
Przyszła i zasiała
Mrzonki i nadzieje.

Rozbudziła serce
Życia wielkim szałem,
Roztoczyła czary,
Jakich nie zaznałem.

W jakieś lepsze światy
Zwała czarownica;
Gnała smutki z duszy,
Gnała troski z lica.

Tak szła ona ze mną
Po życiowej fali,
Lecz, jak przyszła cicho,
Tak i poszła dalej.

Jeno żal po sobie
Wieczny zostawiła,
Jeno żal głęboki,
Smutny, jak mogiła.

Jesień osmętnica,
Jesień trupio-blada
W sercu samotniczem
Możnie się rozsiada.

## ВЯСНА

Стрэлася са мною
Ціхай і зялёнай,
Дужай, поўнай жыцця,
Сонцам залачонай.

Стрэлася, прагнала
Слоты і завеі,
Стрэлася засеяць
Мары і надзеі.

Сэрца абудзіла
Жыцця буйным шалам,
Мноства неспазнаных
Дзіваў разаслала.

Ў лепшы свет якісьці
Клікала на чары,
Гнала смутак з сэрца,
Гнала клопат з твару.

Так ішла са мною
Па жыццёвай хвалі,
Як прыйшла паціху,
Так пайшла і далей.

Толькі па сабе вось
Жаль мне падарыла,
Толькі жаль глыбокі,
Цяжкі, як магіла.

Восень непарадна
Ў хмурай паняверцы,
Села сабе ўладна
У самотным сэрцы.

Jak zmieniła wiosnę,
Wszelka światłość gaśnie;
O wieczystych troskach
Opowiada baśnie.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Szumią lasy, szumią,
Szumią na jesieni,
A nad nimi zorza
Jasno się czerwieni.

Poleć, moja pieśni,
Poleć, moja głośna,
Może zniknie jesień,
Może wróci wiosna.

Як вясну змяніла,
Згаслі ўсюды краскі,
Пра адвечны клопат
Кажа свае казкі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шэпча лес і шэпча,
Шэпча цягам восень,
А зарой над імі
Неба занялося.

Ты ляці, разносся,
Песня мая, песня,
Можа, знікне восень,
Мо вясна ўскрэсне.

## TUŁACZ

Cicho, samotnie, bez łez i skarg
Wlecze się tułacz ubogi,
Głuchym westchniem wzdyma się pierś,
Ręce się trzęsą i nogi.

Choć swe uroki roztacza Bóg,
Błyska gwiazdami i słońcem, —
Tułacz znękany nie widzi nic,
Nie czuje sercem cierpiącem.

Ztargał ze światem łączącą nić,
Zwątpieniem zgłuszył nadzieję,
W przyszłe uciechy nie wierzy już,
Szczęścia już dlań nie istnieje.

A były chwile, gdy tułacz ten
Wielbił czar swego istnienia,
Myślom nadawał sokoli lot,
Walczył i zwalczał cierpienia.

Były to chwile młodzieńczych lat,
Chwile ułudy i wiary,
Bez obłud kochał ludzi i świat,
Pił uciech błahych niektary.

Niestety przejrzał, rozwiał się sen,
Ułudy mgła się rozsnuła;
Zanadto wierzył i wiara ta
Istnienie jego zatruła.

Dzisiaj samotnie, bez łez i skarg
Wlecze się tułacz ubogi,
Głuchym westchnieniem wzdyma się pierś,
Ręce się trzęsą i nogi.

## БАДЗЯГА

Ціха, самотна, ні скаргі, ні слёз,
Пхнецца бадзяга убогі,
Грудзі ўздымае прыглушаны ўздых,
Рукі трасуцца і ногі.

Хоць свае чары рассейвае Бог,
Зорамі й сонцам агнюе,
Свету бадзяга не бачыць вакол,
Сэрцам пакутным не чуе.

Повязі нітку са светам парваў,
Знішчыў надзею сумлівам
І ані верыць у радасць ужо,
Век ён не будзе шчаслівым.

Час адышоў для бадзягі, калі
Рады ён быў сваёй доляй,
Мыслі пускаў у саколі палёт,
Лёгка няўдачы адольваў.

Быў гэта час маладосці яго,
Час ясных мроіваў, смеху,
Шчыра любіў і людзей ён і свет,
Піў нектар марных уцехаў.

Ды ўсё ж мінуўся, развеяўся сон,
Мроівы зніклі ў туманах,
Надта ён верыў, і вера якраз
Жыцце звяла на падманах.

Сёння самотна, ні скаргі, ні слёз,
Пхнецца бадзяга убогі,
Грудзі ўздымае прыглушаны ўздых,
Рукі трасуцца і ногі.

## O ZMROKU

Lubię ja dumać o wieczornym zmroku,
Gdy świat przywdzieje nocne czarne stroje
I gwiazdka zajrzy w okieneczko moje, —
O, w takim zawsze kocham się widoku!

Wówczas się w duszę marzeń cisną roje
O mojej doli czarniejszej od zmroku,
A choć swe serce w nieczułość uzbroję,
Nieraz zabłyśnie i zgaśnie łza w oku.

Siedzę i marzę, i czekam, a czego?
Sam ja nie mogę odrzec na to sobie...
Zdaje się losu jakiegoś lepszego.

Bo kiedyż wreszcie szczęściem się ozdobię,
Zbędę się smutku i bólu swojego?
Czy aż w mogile — w czarnym zimnym grobie?..

## НА ЗМЯРКАННІ

Думаць люблю я увечары ў змроку,
Свет апране калі чорныя строі,
Зорка глядзіць у ваконца малое —
О, тады мыслі ўзлятаюць высока!

Мары душу апаноўваюць роем
Аб маёй долі, чарнейшай ад змроку.
Хоць сваё сэрца нячуласцю ўзброю,
Часта сляза бліснe й згасне у воку.

Мару й чакаю чагосьці мо болей?
Сам адказаць я на гэта павінен...
Лепшае, здэцца, нейкае долі.

Шчасце мяне калі ж не адкіне,
Як жа пазбудуся смутку і болю?
Хіба ў магіле — ў глухой дамавіне?..

* * *

Przestańcie marzyć o sławnej przeszłości.
Marzeniem swoim już jej nie wskrzesicie;
Choćbyście dali nawet własne życie, —
Nie wróci nigdy do was, nie zagości.

I przyszłość wasza spowita w ciemności
Nie świeci szczęściem na dalnim błękicie;
Rodzi bolesne zwątpienie skrycie,
I w sercu czarną beznadziejność rości.

Więc rzućcie mrzonki i żale po czasie,
Choć dusza cierpi, chociaż serce boli,
Kochajcie przyszłość w jej świetlanej krasie.

Sercem poddajcie się losów swawoli,
I pracą cichą uścielajcie dla się
Drogę do przyszłej promienistszej doli.

* * *

Пакіньце думаць аб слаўным мінулым,
Сваею думкай яго не ўскрасіце;
І хоць аддаць паспрабуеце жыцце —
Мінуласць знікла для вас, прамільгнула.

І прышласць вашая ў мгле патанула,
Не свеціць шчасцем на дальнім блакіце;
Сумненне скоўвае, што не чыніце,
І ў сэрцы нішчыць надзею знячула.

Адкіньце ж познія жалі і мрою,
Хоць сэрца ные, не мае патолі,
Любіце прышласці яснасць душою,

Паддайцеся шчыра лёсаў сваволі,
Сцяліце працаю ціхай сваёю
Шляхі да прышлай праменістай долі.

## WRÓCI WIOSNA, WRÓCI

Wróci wiosna, wróci
Z zielenią, z kwiatami,
Słonko się rozsmuci,
Zaświeci nad nami.

Odprawią się gody
Na mogile zimy,
Kiedy pękną lody
Od wiosny rodzimej.

I w polu i w kniei
Zabrzmi hejnał ptasi,
I promień nadziei
Życia sny okrasi.

Z pracowitą dłonią
Rolnik po śnie długim
Wyjdzie ze swą bronią —
Sochą albo pługiem.

Wypleni kąkole
I pokrzywę marną.
W zaorane pole
Rzuci plenne ziarno.

Zbożem się zakłoszą
Obsiane zagony,
Świętą wodą szoszą
Ludzie nowe plony.

Żyto i pszenicę
Zbiorą niby złoto,
Z nich wieńce dziewice
Na dożynki splotą.

## ВЕРНЕЦЦА ЎРАЧЫСТА...

Вернецца ўрачыста
Зноў вясна з буслам,
Высвеціцца чыста
Сонейка над намі.

Справяцца хаўтуры
Над зімы магілай.
Трэсне лёд пануры
Пад вясновай сілай.

Гай зазелянее,
Спеў раздасца птушак,
І прамень надзеі
З'ясніць нашы душы.

Збыўшы млявасць мрояў,
Аратай вясною
Выйдзе з сваёй зброяй —
Плугам ці сахою.

Крапіву, куколле
Вынішчыць, як трэба,
Заараўшы поле,
Зерне кіне ў глебу.

Густа збажынаю
Прарастуць загоны,
Высвенцяць вадою
Людзі тыя плёны.

Будзе плён багаты
Золатам іскрыцца,
І вянкі дзяўчаты
Выплетуць з пшаніцы.

A słonko dokoła
Żale porozprasza,
Człek duszą zawoła:
Oj dana, oj nasza.

Ej zimo, ej chłody,
Przemijajcie prędzej,
Roztopcie swe lody
Dla wiośnianej przędzy.

Сонейка наўкола
Жалі расшматае,
Чалавек вясёла
Дзень свой прывітае.

Грай жа адыходы,
Холад зім суровых,
Растапляй жа лёды
Дзеля чар вясновых.

## MIŁUJĘ CIĘ, ZIEMIO...

Miłuję cię, ziemio, rodzinna ma ziemio,
Choć mroki doczesne przyćmiły twą chwałę,
Ty zalśnisz, w twem łonie wulkany nie drzemią,
Dzień przyjdzie i łuna twych potęg zapała.

Miłuję cię, ziemio, choć wrogi bezczelne,
Że ty już nie żyjesz, złorzeczą plugawie,
Ty żyjesz jak wieczność, twe dni nieśmiertelne,
Twój naród pamięta o twej byłej sławie.

Miłuję cię, ziemio, — twe wody, twe łany
I urok twej wiosny i pustkę twej zimy,
Twe plony i lud twój niedolą znękany,
I piosnki miłuję dzwięk w mowie rodzimej.

Miłuję — jak jesteś szeroka i długa,
Przed laty dwóchsetnie liczące się miary,
Gdy bił ci pokłony i władca i sługa,
Gdzie słońcem, gdzie gromem szumiały sztandary.

Miłuję cię, ziemio, choć życie tułacze
Trosk niesie mi tyle i gorzkich łez tyle;
Ja cię nie zapomnę, — zatęsknię, zapłaczę
Hej, nawet po śmierci — w twym łonie, w mogile.

## ЛЮБЛЮ Я ЦЯБЕ, ЗЯМЛЯ...

Люблю [redacted] цябе, зямля маіх продкаў,
Хоць слава твая у прыцьменні дачасным,
Хоць сціхлі вулканы ў тваім асяродку,
Ды моц твая ўзнімецца зарывам ясным.

Люблю я цябе, хаця вораг брыдотны,
Што ты ўжо памерла, зларэчыць плюгава,
Жывеш ты, як вечнасць, твой лёс несмяротны,
Народ не забыўся тваёй былой славы.

Люблю я цябе — твае воды і поле,
Вясны тваёй краскі і холад зімовы,
І плён твой, і люд, які змучан нядоляй,
І ў песнях гучанне радзімае мовы.

Люблю, якой ёсць і была ты пад сонцам;
На часы на ўсе і на ўсім на абшары,
Калі біў паклоны табе слабы й моцны,
Дзе громам, маланкай шумелі штандары.

Люблю я цябе, хаця лёс мой бядачы
Мне горасць нясе і турботы над сілы;
Цябе буду помніць — і ў смутку заплачу
Я нават у лоне тваім, у магіле.

## HEJ, W ŚWIAT!..

Hej, w świat! Hej, w świat! W szeroką dal,
Za myślą w ślad, za wiatrem w ślad:
By zwalczyć gorycz, smutek, żal,
Więc dalej w świat! Więc dalej w świat!

Uzbroić duszę w hartu stal,
Uczucia wyrwać z serca kwiat,
Miłości zdarć ułudną szal
I lecieć w świat, w szeroki świat.

Lecz skrzydeł mnie do lotu brak,
Choć w sercu gorze wielka chęć,
Choć gorzko tak, choć ciężko tak!

O, Boże, byt mój w domu święć:
Ja matkę, sióstr i brata mam...
...Ach, czemuż dano serce nam?!

## У СВЕТ!..

У свет! У свет! У далеч-даль,
За думкай ўслед, за ветрам ўслед:
Абы змагчы свой смутак, жаль,
Далей у свет! Далей у свет!

Душу ўзмацніць, як гартам сталь,
Пачуццяў вырваць з сэрца квет,
З любові здзерці мрояў шаль,
Ляцець у свет, у белы свет.

Ды крыл на лёты не стае,
Хоць сэрца спальвае адчай,
Хоць горка мне, хоць цяжка мне!

Застацца дома, Божа, дай:
Ёсць маці, брат і сёстры тут...
...Ах, сэрцы маем для пакут?!

* * *

Z bólem wieczystym w swych mrzonkach zamknięci,
Musimy badać i poznać świat cały,
Zbadać człowiecze i dusze i chęci
I snuć w milczeniu bytu ideały.

Musimy zgłuszyć wszystko co nas nęci,
Co nam w ofierze zmienne losy dały,
A tylko grać dla przyszłości hejnały,
By potem zniknąć w kurzu niepamięci.

Złudnemi tylko żyjem marzeniemi,
Choć życie nieraz swą pokusą mami,
Choć mamy dusze, chociaż mamy serce.

Tak los nielitościwy wiecznie miota nami,
Tułać się musim w życia poniewierce,
Pijąc trucizną, którą ślą oszczerce.

* * *

Свае замкнуўшы ў марах парыванні,
Мы мусім свет даследаваць цярпліва,
Спазнаць людскія душы і жаданні
І ідэал быцця снаваць маўкліва.

Заглушваць мусім звабныя пытанні,
Што зменны лёс нам падарыў зычліва,
І гімны граць для прышласці шчаслівай,
Каб зніклі зрэшты ў пыле забывання.

Жывем мы толькі ў мроях, ва ўяўленні,
Хаця ў жыццё зрэдзь клічуць летуценні,
Хаця ў нас душы і хаця ў нас сэрцы.

Лёс абламляе нашыя памкненні,
Бадзяемся ў жыццёвай паняверцы,
Каб з горасцю атрутнаю сустрэцца.

## Z MOTYWÓW JESIENNYCH

Jakby cień osmętnicy,
Jakby skargi tułacze,
Jakby żal pokutnicy, —
Idzie jesień i płacze.

Płacze święcąc tumanem
Ziemi czarne pustkowie,
Aż po sercu stroskanem
Rozlatuje się mrowie.

Obszar matki-natury
Pełen zziębłej niemocy;
Hen, po niebie mkną chmury,
Wiatry wieją z północy.

Wilczej zgrai półżywej
Lecą jęki złowieszcze,
A w nich dziwne motywy —
Będzie gorzej tu jeszcze.

Będą chłody i zimy,
Co od brzegu do brzegu
Ziemi życie powstrzyma
Swym całunem ze śniegu...

Pusto, głucho na duszy,
I o doli człek nie śni;
Słota gnębi i głuszy
Chwile marzeń i pieśni.

Lecz wtem, jakby z parowu,
Słonko błysło i grzeje,
I zbudziły się znowu
Lepsze dumki, nadzieje.

## З АСЕННІХ МАТЫВАЎ

Нібы цень нейкі смутны,
Нібы лямант бядачы,
Нібы енк чыйсь пакутны, —
Ідзе восень і плача.

Плача, свенціць туманам
Апусцелыя нівы,
Аж па сэрцы жальбяным
Бег мурашак жахлівы.

Абшар маткі-натуры
Лёг у немачы змрочна,
А па небе мкнуць хмуры,
Вее вецер паўночны.

Зграяў воўчых завывы
Чутны ў жудасці хораў,
У іх злыя матывы —
Будзе тут яшчэ горай.

Маразы прыйдуць, стыні,
Зіма з краю да краю
Зямлі жыцце прыпыніць,
Пад снягамі схавае.

На душы апусценне,
І не сніцца пра долю,
Слота глушыць памкненне
Зведаць мару і волю.

Ды ў асенняй аблудзе
Сонца бліснула й грэе —
І збудзіліся ў людзях
Парыванні, надзеі.

Słychać cudne odgłosy,
Minie pora nieznośna,
Ziemi zmienią się losy,
Będzie dola i wiosna.

Byle nie padł na serce
W czasie słoty, zawiei,
Ścieląc zwątpień kobierce,
Martwy sen beznadziei.

Чутна, прыйдуць дзівосы
І мінецца напасце,
Зямлі зменяцца лёсы,
І вясна будзе й шчасце.

Заашчадзіць бы сэрцы
У час слоты, завеі,
Калі сцелюць каберцы
Мёртвы сон безнадзеі.

## Z PIOSNEK SIEROTY

Matuś moja leży w grobie,
Nad kurhanem wicher wieje,
A ja tutaj płaczę sobie,
Wspominając jej nadzieje.

Gdy spiewała, obiecała,
Kołysając mię w kolebce,
Że wyrosnę, niby skała,
I niedolę swą podepcę.

Że się wzniosę dobrą sławą
Ponad lasy rosochate,
Że wysłużę pracą krwawą
Własną rolę, własną chatę.

Że nadzieją się wzbogaci
W jasną przyszłość serce młode,
Że wśród swej tułaczej braci
Znajdę przyjaźń, znajdę zgodę.

Że życiowe wichry, burze
Nie przełamią bujnej siły,
Że się w błocie nie zanurzę,
Ż chwałą legnę do mogiły.

Że ta ziemia karmicielka
Lepsze wyda z siebie plony,
Radość będzie wielka, wielka,
Aż się ozwie bór zielony.

Tak śpiewała moja matka,
A ja duszą odczuwałem,
I cieszyłem się z ukradka
Sercem wówczas niezbolałem.

## З ПЕСЕНЬ СІРАТЫ

Маці спіць мая ў магіле,
Над курганкам вецер вее,
Я тут плачу у бяссіллі,
А калісь былі надзеі.

Ля калыскі мая маці
Песню мне вяла старую,
Што бяды не буду знаці,
Моцнай, дужай узрасту я.

Што ўзнясуся добрай славай
Па-над лесам расахатым,
З працы рук сваіх крывавай
Я займею поле, хату.

Што надзеям, як багаццю,
Будзе сэрца маё рада,
Што сярод бядачай брацці
Я знайду любоў, параду.

Што жыццёвым віхрам, бурам
Не змагчы вялікай сілы,
Што ў гразі не апануру —
З хвалай лягу я ў магілу.

Што карміцелька зямліца
Выдасць лепшыя мне плёны,
Буду верыць, весяліцца,
Адазвецца бор зялёны.

Так спявала мая матка,
Я ж душой лавіць умела
І ўсцяшалася украдкай
Сэрцам шчэ ненабалелым.

I widziałem ludzkie życie
W barwach tęczy, w blaskach słońca,
Wieczne pieśni na błękicie,
Wieczną miłość wiarą lśniącą.

Lecz niestety, ach, niestety,
Wszystko wspak się obróciło.
Dolo, gdzie ty? Dolo, gdzie ty?
Gdzie ty, wiaro w bujną siłę?

Bez przytułku, bez pociechy
Wciąż się tułam po tej ziemi,
Uszła dola z pod mej strzechy,
Z piosenkami uszła swemi.

Swoi bracia — jak nie swoi, —
Łez nie widzą, skarg nie słyszą,
Każdy o swej prawdzie roi,
A mój żal zbywają ciszą.

Cudze pola orać muszę.
W cudzej chacie żyć z tęsknotą,
Bolem trapić swoją duszę,
Żem sierota, żem sierota!

Wszędzie bieda, gdzie się zbliżę.
Rzucam progi obcej chatki,
Pod mogilne idę krzyże,
Poślę skargi do swej matki.

Może ona mnie wysłucha,
Skarg w niepamięć nie zagrzebie,
I pokrzepi hartem ducha,
Lepszą dolę ześle z nieba.

І ўяўляла жыцце люду
У вясёлках, блясках сонца,
Песні вечныя паўсюды,
Любасць вечную ў старонцы.

Ды прайшлі, мінулі леты,
Ўсё інакш перакруцілі.
Доля, дзе ты? Доля, дзе ты?
Дзе ты, вера ў мае сілы?

Без прытоння, без пацехі
Цягам гнуся прад усімі,
Доля знікла па-над стрэхі,
Знікла з песнямі сваімі.

А браты — як чужакамі,
Не глядзяць, не чуюць скаргі,
Дбаюць толькі сабе самі
І на жаль мой — ані ўвагі.

Я ару чужое поле,
Нада мной страха чужая,
І душу сціскае болем:
Сірата я, сірата я!

Дзе ні йду, а ўсё бядую.
Уцяку з чужой хатулі,
Да крыжоў, магіл пайду я,
Скаргі вылію матулі.

Скаргі будзе яна слухаць,
Як ніхто і аніколі,
Дасць мне сілы, моцнасць духу
І спашле з нябёсаў долю.

## JAKBY WIOSNĄ...

Jakby wiosną pieśń radosną
Dumki mi zagrały:
Moje mrzonki takich dźwięków
Jeszcze nie słyszały.

Moje oczy kraj uroczy
Widzą wkół daleko,
Łza radości zajaśniała
Pod smutną powieką.

Ej, nie dziwo tak szczęśliwą
Odczuć w sobie chwilę:
Moje dziewczę dziś spojrzało
Na mnie szczerze, mile.

Dobrze w gaju przy ruczaju
Żyć wiosną nad ranem,
Dobrze piosnkę wysnuć z duszy,
Lepiej być kochanym.

## БЫЦЦАМ ВЕСНУ...

Быццам весну, радасць-песню
Думкі мне зайгралі:
Мае мары гукаў гэткіх
Покуль не спазналі.

Сёння бачу, як зыначаў
Край дзівосна вокал,
Слёзы шчасця заяснелі
У тужлівым воку.

Эй, не дзіва так шчасліва
Чуцца той часінай:
Паглядзела шчыра, міла
На мяне дзяўчына.

Добра ў гаю ля ручаю
Быць увесну рана,
Добра песню з сэрца ўзнесці,
Лепей быць каханым.

## WCZORAJ BYŁO...

Wczoraj było... Jak mogiłą
Serce dławił żal.
Gdym się żegnał ze swą chatą,
Gdym podążał w dal.

Marą ciemną snuł przede mną
Czarnej doli wąż,
Niebo wrzało niepogodą,
Piorun huczał wciąż.

Noc dokoła niewesoło
Roztoczyła mrok,
Zasyczały ćmy zwątpienia,
Łzą się oćmił wzrok.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Dzisiaj patrzę — niebo bladsze,
Nie tak pełno chmur,
Pieśń wiośniana z dala leci,
Szumnie gada bór.

Mnie zaś dalej duszę pali
Tęsknych marzeń rój;
Jak i wczoraj, serce boli,
Smutno, Boże mój.

## УЧОРА...

Божа мілы... Бы магілай
Ўчора ціснуў жаль,
Як я кінуў сваю хату,
Як падаўся ў даль.

Чарнатою прада мною
Віўся долі ўюн,
Неба грала непагодай,
Ўсцяж гучаў пярун.

Ноч наўкола невясёлы
Разаслала змрок,
Зашыпелі цемры звады,
Слёзы ўцьмілі зрок.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Сёння ў небе як і трэба,
Хмараў зменшаў хор,
Спеў вясняны чутны ў свеце,
Шумна шэпча бор.

Мне ж і далей душу паліць
Горкіх думак рой,
Як і ўчора, ные сэрца,
Сумна, Божа мой.

## ZIEMIO...

Ziemio, kocham ja ciebie, kocham duszą całą,
Chcę piersią przylgnąć, jak do swej kochanki;
Pragnę ciebie ozdobić w szkarłatowe wianki,
Pragnę otoczyć ciebie nieśmiertelną chwałą...

W zieleni, w świetle całaś, błyskasz życiem śmiało.
Widzę na twej przestrzeni przecudne pisanki,
Miłości i braterstwa widzę jasne ranki,
Dusza woła: O Boże! Czegoż mi dziś mało?

Serce płacze... Pierzchają sny o tobie, ziemio;
Zamiast wiosny i słońca — ciemnota złowroga,
Na twych łanach kwiecistych — głazy i kąkole.

Poloty ku miłości w duszy cicho drzemią...
Nie kocham ciebie, ziemio, choć wołam do Boga:
— Chryste! skąd zmiana taka?..
Cudzą orzę rolę...

## ЗЯМЛЯ...

Зямля, цябе люблю аддана і трывала,
Я прытулюся да цябе, як да каханкі;
Хачу цябе аздобіць у вянкі-барвянкі,
Хачу абдараваць цябе нямручай хвалай.

У зеляніне ўся, ў зіхоткасці прыўдалай,
Мне бачны ўсе твае дзівосныя пісанкі,
Мне бачны і братэрства і любові ранкі,
Душа пытае: "Божа мой! Ці ж гэта мала?"

Знікаюць сны балесна пра цябе, зямліца,
Замест вясны і сонца — цёмнасці трывога,
На нівах на тваіх — каменне і куколле.

І ўзлёт да любасці цяпер ужо не сніцца...
Я не люблю цябе, зямля, пытаю ў Бога:
— Чаму так стала?..
Я ару чужое поле...

## FRAGMENT

...I wulkan wybuchnął... Ogromne lawiny
Objęły przestworza, zajęte ludami,
I szydząc z walk tłumu, pałając z kotliny,
Rownują swą gładzią doliny z górami.

Tłum walczy... Przekleństwa i jęnki bluźniercze
Złowieszczo zabrzmiały, jak psie skowytanie...
O, próżne zwalczanie tej mocy morderczej...
Już zgliszcza dokoła. Ha, nic nie zostanie!

Już krucze odgłosy rozległy się w dali,
I wilcze szczenięta na żer się porwali,
Już krwawą biesiadę poczuli dla siebie
Hej, na tej mogile, hej, na tym pogrzebie.

## ФРАГМЕНТ

...Вулкан усхадзіўся... Шырока лавіны
Пайшлі на занятую людам прастору.
Смяюцца над змогай, гарацъ катлавіны
І гладка раўнуюць з далінамі горы.

Ратуюцца людзі... І енкі, праклёны
Нясуцца жалосна, як выцце сабакаў...
Нічым не змагчы сілы згубна шалёнай...
Спустошыць прастору, не будзе і знаку!

Крумчыць груганнё ўжо з-за далі у высі,
І зграі ваўчыскаў на корм падаліся,
Бяседу крывавую ўчулі ў імгненне
На гэтай магіле, на гэтым зліненні.

* * *

Sny ułudne, nierozbudne,
Tęsknot pełne sny
Omroczyły moją duszę,
Niby nocne ćmy.

Skrami lśniące gwiazdy, słońce
Jeno mroki ślą,
Ziemia, ludzie — jedną pustką,
Jedną smutną mgłą.

Serce płacze, łzy tułacze
Na świat roni ten,
Całe życie jak pokuta,
Jak żałobny tren.

Tak ułudne, nierozbudne
Tęsknot pełne sny
Omroczyły moją duszę,
Niby nocne ćmy.

* * *

Сны аблудна, неразбудна,
Скрухі маей сны
Душу змрокам спаланілі,
Быццам ноч, яны.

Бляск бясконцы зорак, сонца
Толькі змрокі шле,
Зямля, людзі — у пустэчы,
У адной імгле.

Сэрца плача, слёз бядачых
Многа свет займеў,
Жыцце ўсё нібы пакута,
Бы жалобны спеў.

Так аблудна, неразбудна
Скрухі маей сны
Душу змрокам спаланілі,
Быццам ноч, яны.

* * *

Kto z was, druhy, bracia moi,
Żal uśmierzy, łzy ukoi,
Moje łzy tułacze?
Szukam pociech w pieśni swojej,
Lecz się lira w smutek stroi,
Z pieśnią tęsknię, płaczę...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Wyszli z pługiem już oracze,
Serca cieszą się junacze,
A pot lica znoi.
O zbiór plenny lud kołacze.
...Grad zbił plony... Słychać płacze...
Płaczą bracia moi.

* * *

Хто з вас, другі, хто з вас, брацці,
Можа плач мой, жаль суняці,
Сцішыць енк бядачы?
Мне б у песні ўцех шукаці,
Ды не леры граць на свяце.
З песняй толькі плачу.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Час у полі ўжо гарачы,
Сэрцы цешыць дух юначы,
Трэба працаваці,
Плёнам збожжа лёс зыначыць.
...Град збіў жыта... Чутны плачы...
Плачуць, плачуць брацці.

## KOBIECIE

Różnych, ja, uczonych dzieła
Za swych młodych lat czytałem
Lecz się zkąd kobieta wzięła
Tego nigdzie nie znalazłem.
A najbardziej, czem jest ona?
Czy to jest coś dobre święte?..
Czy dla szczęścia ją stworzono?..
Czy to jakie złe przeklęte?..
I tak pewnoby nazawsze
W niej nic nie wiedząc siedział,
By Jankiela raz spotkawszy
Jam wszystkiego się dowiedział.
Jankiel był praktycznym wielce
Jak i każdy żyd nasz prawie
Więc i lepiej na kobiecej
Jak uczeni znał się sprawie.
[......] już nie mało
Za swe życie przehandlował
Darząc je miłością stałą
Nim o wadach się przekonał.
Przytem żydem był do tego,
By uwierzyć dosyć było
Boć to zawsze żydowskiego
Nam rozumu słuchać miło.
Otoż Jankiel mój powiedział
On wyrzekł o kobiecie:) —
Że kobieta to zagadka
I do tego wielce mądra
Że — zgadniejcie — rzecz jest rzadka
Zawsze musi być niedobre.
I kto tylko się porywał
Ją rozwiązać, poznać, zbadać
To się zawsze przekonywał
Że nie w siłach to dokazać.

## КАБЕЦЕ

Малады, вучоных працаў
Я чытаў калісьці многа:
Скуль было кабеце ўзяцца —
Не знайшоў аб тым нічога.
Што яна — найбольш цікава.
Ці яна дабро святое?..
Ці для шчасця, для забавы?..
Ці яна пракляцце злое?..
Так напэўна б я ў бязгрэшшы
І ў няведанні застаўся,
Каб, раз Янкеля сустрэўшы,
Пра ўсё чыста не дазнаўся.
Янкель слыў практычнай славай,
Як жыд кожны замыслёны,
І таму з кабечай справай
Знаўся лепей за вучоных.
І кабет ужо нямала
Ім за жыцце памяняна.
Любасць дорачы ім стала,
Ён уведаў іх заганы.
Быў ён жыд — з тае нагоды
Верыць можна без пагрозы,
Бо прыемна нейк заўсёды
Слухаць нам жыдоўскі розум.
Вось тады што Янкель гэты,
Распавёў мне пра кабеты:
Што загадкай ёсць жанчына,
Што разумная надзвычай,
Што, ўявіце, быць павінна
Гэта кепска ўсё зазвычай.
І хто толькі парываўся
Распазнаць яе, даследваць,
Той напэўна праканаўся,
Што яе не ў стане зведаць.

Nawet często w tem badaniu
Do którego jakaś siła
Rwie nas, to aż przy skonaniu
Ta zagadka straszną była.
I wam mówią: kiedy chcecie,
(Tak mi dalej Jankiel prawił),
Żyć bez biedy na tem świecie
I od złego Bóg was zbawił,
To się nigdy wy nie rwicie
Do zagadki tej zbadania
Gdyż napewno się zmylicie
Bo to nie do rozwiązania.
I gdy w sidło wy wpadniecie
Przez kobietę rozstawione,
To napewno przypadniecie
Tak jak w piekle zatraconem.

Ды загадка ў тым спазнанні,
Да якога прагнем рвацца
Мы ажно і пры скананні,
Часта страшнай можа здацца.
Вам кажу: калі ахвота
(Так далей мне Янкель баяў)
Жыць на свеце без турботы,
Каб ад злога Бог вас збавіў,
То не рвіцеся ніколі
Спазнаваць загадку гэту,
Бо памылак ёсць даволі:
Не раскрыць ніяк сакрэту.
І калі ў сіло ўпадзеце,
Што пастаўлена кабетай,
То напэўна прападзеце,
Нібы ў згубнай апраметнай.

## MODLITWA

Próżno się duch mój w męce krwawi
I próżno myśl znękana targa
Z rospaczą nieustanną!

Już litość ziemska mnie nie zbawi
I nie pomoże jęk lub skarga —
Ku Tobie ślę mój wzrok, Przeczysta!
Królowo niebios, Matko Chrysta!
Panno!..

Bądź pochwalona, Pani Święta!
Tym hymnem, co wzrósł z mych boleści
I do stóp Twoich płynie!

O! nie odtrącaj, wniebowzięta!
Gdyż głos mój, jak liść, co szeleści,
Miotany wichrem i ścigany —
A serce, na kształt jednej rany,
Ginie!

Złudy, tęsknoty, przędze marzeń,
Wszystko uniosły fale życia,
Los chłostał mię swym biczem!

Igraszką byłem jego zdarzeń,
Skazany cierpieć od spowicia,
A zawszem nosił duszę hardą,
Choć krzywdy jam nie płacił wzgardą
Niczem!

## МАЛІТВА

Мой дух дарма крывёй сцякае
І мысль дарма ў пакуце скача
Пад роспач несціхана.

Жальба не выбавіць зямная
І не ўратуе скарга з плачам —
Мне толькі ў Твой бок пазіраці,
Прачыстая Хрыстова Маці!
Панна!..

Хвала Табе, Святая Пані!
Плывуць маёй пакуты гукі
Да ног Тваіх у гімне!

О, не пакінь у вышнім ззянні!
Бо голас мой нязбытай мукі,
Нібыта ліст, віхурай гнаны,
А сэрца, бы з суцэльнай раны,
Гіне!

Уявы, мроі, сноў снаванне —
Усё сплыло ў жыццёвай хвалі,
Хвастаў лёс у аблудзе!

Я цацкай быў яго гуляння,
І хоць цярпенні славівалі,
Заўсёды з гордай быў душою,
Пагардай не плаціў сваёю
Людзям!

## POST SCRIPTUM

Польскамоўныя вершы Янкі Купалы. Яны былі перадрукаваныя на машынцы і сабраныя паэтам у адзін сшытак з паметай: "Пісаў у 1906 г. І.Луцэвіч", якая тычылася, хутчэй, часу перадрукоўкі, а не напісання вершаў. Ці намерваўся паэт выдаць іх асобна? Ва ўсякім разе, пад адной вокладкай былі зведзеныя не ўсе вершы, напісаныя Купалам па-польску. У сшытак не трапілі творы, якія, паводле агульнай згадкі паэта, нібыта публікаваліся ў часопісе "Ziamo", а таксама прысвячэнне сястры Леакадзіі і лірычны жарцік "Кабеце", датаваны 14 ліпеня 1904 года ды запісаны Купалам і заклеены (ім?) на той старонцы, на адгорце якой маецца бадай ці не першы твор паэта на беларускай мове — "Мая доля", пазначаны 15 ліпеня 1904 года, і вершаваная страфа, блізкая паводле зместу да "Маёй долі".

Відочна, Янка Купала кіраваўся мастацкім прынцыпам выбару, калі, складаючы машынапісны сшытак вершаў, палічыў патрэбным не ўключаць у яго іншыя свае польскамоўныя творы. Прысвячэнне сястры згубілася ў завірусе дзён, а вершы, змешчаныя ў польскім друку, з-за няпэўных звестак наўрад ці будуць калі атрыбутаваныя. Адзін з іх — "Малітва", выяўлены Сцяпанам Александровічам у часопісе "Ziamo" (1903, № 13), дзе быў апублікаваны пад крыптанімам І.L.

Здарылася так, што час заашчадзіў для нас пераважна выбраныя самім аўтарам польскамоўныя вершы. Вылучаючы гэтыя творы ў асобную нізку, Купала не выкрэсліваў іх з сваёй творчасці, а хацеў захаваць і так ці інакш данесці да чытача. Узятыя ў іншамоўную абалонку, яны не супрацьстаялі яго беларускай паэзіі, ядналіся з ёю тэматыкай і зместам, лучыліся ідэйным тэмпераментам, хоць і неслі на сабе прыкметы кніжнасці. Напісаныя паводле ўзораў тагачаснай польскай паэзіі, яны былі гістарычна абумоўленым працягам польскамоўнай творчасці тых білінгвальных аўтараў, якіх мы называем сёння пачынальнікамі новай беларускай літаратуры за іх першыя спробы даць мастацкае жыццё беларускаму слову.

Іншамоўная (не ўласна беларуская) і дзвюхмоўная (польская і беларуская) творчасць пісьменнікаў Беларусі мела даволі развітыя традыцыі ў мінулым. Польскамоўная паэзія Янкі Купалы — поўная даніна гэтым традыцыям беларускага літаратурнага жыцця. Шлях ад іх засваення да іх пераадолення ён прайшоў надзвычай хутка. І гэта быў подзвіг яго чалавечага духу, подзвіг, які не мог не здзейсніцца, бо ў ім ужо магутна і таленавіта пачынала біцца сэрца прарока, чаканага выпрабавальнай гісторыяй беларускага адраджэння. Стыхія роднай беларускай мовы вывела паэта на бязмежныя прасторы адкрыцця новых мастацкіх магчымасцяў, вызначыла нацыянальнае сцвярджэнне яго паэтычнага генія.

Польскамоўныя вершы былі не выпадковым эпізодам у творчасці вялікага паэта, і іх сённяшняе ўзнаўленне па-беларуску — усяго толькі спроба адказаць на пытанне: а як жа напісаў бы Янка Купала гэтыя творы на роднай мове?

*Уладзімір Мархель*

## TREŚĆ

## ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

Янка Купала

# *Зніч любові*

Выдадзена пры падтрымцы
Польскага інстытута ў Мінску

Рэдактар
*Валянціна Марціновіч*

Карэктар
*Валянціна Дзядовіч*

Мастак вокладкі
*Віталь Катовіч*

Макетаванне
*Алена Лобач*

Падпісана ў друк 20.08.02. Фармат 60 x 90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Arial.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,5. Наклад 300 паасобн. Замова № 63.

Выдавецтва «Тэхналогія». ЛВ № 73 ад 07.08. 01. 220007, г. Мінск, вул. Ляўкова, 19.
Друк НВК «Тэхналогія». ЛП № 153 ад 07.08.01. 220007, г. Мінск, вул. Ляўкова, 19.

Сертыфікат выдавецкай дзейнасці і паліграфічных паслуг МН № 0000385,
выдадзены 19.03.99 Беларускай гандлёва-прамысловай палатай.

Janka Kupała

# *Znicz miłości*

Янка Купала

# *Зніч любові*

*Вершы Янкі Купалы на польскай мове —
гэта вытокавая частка творчага набытку
вялікага паэта, якая папярэднічала яго дэбюту ў друку
як адраджэнцкага песняра беларусаў.
Таму стварэнне іх беларускамоўнага варыянта —
незвычайнае і нязвычнае вяртанне спадчыны
нацыянальнага генія ў айчыннае лона
праз пераклад, аблічча якога вызначылі такія з'явы,
як паважліва-адэкватнае перанясенне тэксту
з адной моўнай стыхіі ў другую,
эквівалентнае ўзнаўленне яго паэтыкі,
ашчадны пераказ і адначасна інтэрпрэтацыя зместу,
пераймане інтанацый, паўтонаў і манеры аўтара,
стылёвае прыпадабненне, стылізацыя,
а перад усім і над усім — натхнёнае арыгіналам
пераўвасабленне перакладчыка.*

ISBN 985-458-068-7

